**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№19(631)**
**10 траўня 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

## Са святам вялікай Перамогі!

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



### 9 ТРАЎНЯ - Дзень легендарнай перамогі над фашызмам і Дзень памяці загінуўшых воінаў

Гэты Дзень Вялікай Перамогі святкуюць не толькі ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, але і іх дзеці, унукі, праўнукі.

Гісторыя гэтага вялікага свята яшчэ раз нагадае ўсім нам пра гераічнасць і патрыятызм усіх абаронцаў нашай Радзімы.

Дзень Перамогі – гэта свята ў гонар усіх тых, хто падарыў нам мір на гэтай зямлі.

Са святам Вас, дарагія сябры, з Днём Перамогі!

*З павагай, адміністрацыя сайта www.odnopolchane.net*

### Больш трох мільярдаў рублёў будзе выдаткавана на рамонт Глыбоцкай чыгуначнай станцыі

Па словах начальніка Глыбоцкай чыгуначнай станцыі Андрэя Белічэнкі, сродкі сумай 3 мільярды 300 мільёнаў рублёў на гэтыя мэты выдаткаваныя ўпраўленнем Беларускай чыгункі.

З іх 1,8 мільярда рублёў будзе выдаткавана на касметычны рамонт залы чакання, замену вокнаў і дзвярэй у адміністрацыйным блоку вакзала, а таксама на рамонт даху. У 1,5 мільярда рублёў абыдзецца будаўніцтва новых пасадкавых платформаў.

Рамонт вакзала вядзецца з пачатку красавіка. Ужо асвоена 100 мільёнаў рублёў. Работы на пасадкавых платформах пачатыя з 2-га траўня. Тут плануецца асвоіць на працягу гэтага месяца каля 600 мільёнаў рублёў.

Увесь комплекс рамонтна-будаўнічых работ плануецца завяршыць да 20 жніўня 2012 года.

*Kraj.by*




Photo ByMedia.net

### Запрашаем у паездку на Украіну ў г. Хмяльніцкі на 11 мая 2012 года.

Ад'езд у пятніцу а 10:00-й ад аўтастанцыі г. Глыбокае. Кошт праезду 265 970 рублёў. Пры рэгістрацыі неабходна мець пашпарт і грошы.

**Даведкі па тэлефоне: 2-81-52; маб.: (029) 815-07-00.**

*ААТ «Аўтатранспартнае прадпрыемства №16 г. Глыбокае»*

*УНП 300023574.*

Браслаўскі раён

# Забойства дзеля нажывы

■ Станіслаў Раманчук

**Ва ўсіх рэгіёнах Прыдзвіння назіраецца апошнім часам зніжэнне злачыннасці.**

А ў Браслаўскім раёне навогул крымінагенная абстаноўка была адной з самых спакойных у вобласці, што толькі радавала супрацоўнікаў нядаўна створанага райаддзела Следчага камітэта. Аднак быццам гром у чыстым небе, жыхароў азёрнага краю ўзрушыла навіна аб забойстве за грошы 77-гадовага вясковага пенсіянера. Як было ўстаноўлена па гарачых слядах, на такое грэхападзенне пайшоў 20-гадовы раней судзімы хлопец з вёскі Суднікі на пару з 24-гадовым земляком, меўшым таксама непрыемнасці з законам за абарот наркотыкаў. Сваю ахвяру яны забілі нажом у гаспадарчай павеці і "аціанілі" жыццё забітага чалавека ў забраных у яго 300 долараў і 600 тысяч беларускіх рублёў. У той трагічны дзень размову гэтых маладых нелюдзяў пачула сляпая жонка старога, якая была ў сваім доме. Яна змагла звязацца па тэлефоне з роднымі, і тыя выклікалі міліцыю. Дапамагло хутка раскрыць гэта жудаснае злачынства тое, што жанчына па голасу апазнала сваіх аднавяскоўцаў. Адзін з іх спрабаваў уцячы ў Расію, але быў затрыманы транспартнай міліцыяй на чыгуначным вакзале ў Віцебску. Забойцы абодва цяпер знаходзяцца пад вартай і пачалі даваць паказанні. Па ўзбуджанай крымінальнай справе за наўмыснае пазбаўленне жыцця дзеля нажывы і групавы разбой ім пагражае суровае пакаранне ад 25 гадоў турмы да вышэйшай меры – расстрэлу. У лепшым для іх выпадку, суд можа прызначыць забойцам пажыццёвае зняволенне.




Пастаўскі раён

# Знакаміты брэнд пад пагрозай

■ Кастусь Александровіч

**Па ўсёй краіне і за яе межамі добра разыходзіцца прадукцыя пад слыннай гандлёвай маркай "Паставы-гарадок" мясцовага малочнага завода.**

Паўсюдна спажыўцы ацанілі, што вырабы пастаўчан натуральныя, высокай якасці, экалагічна чыстыя і карысныя для здароўя. Аднак у савецкім мінулым гэта прадпрыемства перажыло перыяд поўнага занападу, калі тут засталося працаваць каля паўсотні чалавек і дзейнічаў філіял Глыбоцкага МКК. Напрыканцы мінулага стагоддзя зноў былі прапановы пазбавіць пастаўчан самастойнасці і далучыць іх да камбіната ў суседнім Глыбокім. На шчасце, да такога дурнога крока тады справа не дайшла, але цяпер зноў абласное кіраўніцтва думае стварыць новы малочны холдынг і пасутнасці загубіць Пастаўскі малзавод, адзін з лепшых у Беларусі. Пакуль жа ў райцэнтры поўным ходам вядзецца на гэтым заводзе будаўніцтва новага цэха па выпуску да 20 тон сыроў у суткі. З яго запускам, як мяркуецца, да канца года гэта прадпрыемства на Пастаўшчыне можа стаць малочным камбінатам. Ды і летась гадавы аб'ём рэалізацыі прадукцыі перавысіў 100 млрд. рублёў. Як падлічылі завадчане, з запускам сучаснага мінісырзавода з абсталяваннем перадавых тэхналогій ЕС аб'ёмы вытворчасці вырастуць амаль у 3 разы. Ужо закупілі чэшскую тэхналагічную лінію па выпуску сыроў коштам 7,5 млн. долараў, а сам цэх размесціцца на тэрыторыі памерам з футбольнае поле. Каб "Паставы-гарадок" і надалей заставаўся папулярным брэндам, ні ў якім разе нельга пазбаўляць калектыў завода самастойнасці.

Докшыцкі раён

# Спорыцца праца за грошы

■ Чэслаў Якубовіч

**У большасці сельскагаспадарчых рэгіёнаў краіны ў глыбінцы зарплата ў людзей невысокая, асабліва – у калгаснікаў.**

Не стаў выключэннем і Докшыцкі раён, адзін з самых хлебных на Віцебшчыне (летась намалацілі тут 70 тысяч тон зерня ў бункернай вазе), дзе толькі падчас сяўбы, касавіцы і ўборкі ўраджаю вяскоўцы прыносяць дамоў багата грошай. У Бярэзінскім краі палявыя работы разлічвалі сёлета актыўна весці яшчэ ў пачатку красавіка. Але па выніках працы ў гэтым месяцы на высокія даходы працаўнікам вёскі не прыйдзецца разлічваць. Па ўсёй вобласці прайшлі моцныя дажджы, месцамі выпала нават двухмесячная норма ападкаў, потым захаладала і работы ў полі прыпыніліся. Цяжка было завяршыць і падкормку азімых пасеваў і шматгадовых траў. І толькі калі надвор'е палепшыла, веснавая сяўба стала набіраць высокія тэмпы. Актыўна ўключыліся ў пасяўную працаўнікі сельгаспрадпрыемстваў "Таргуны", "Докшыцкі райаграсервіс", да якога далучаны яшчэ 5 гаспадарак, "АграБераснёўка", "Гняздзілава-Агра" і іншых. Падчас работ у полі вяскоўцаў, механізатараў і вадзіцеляў двойчы на дзень кормяць гарачымі стравамі, у шэрагу гаспадарак нават бясплатна. Ды і самі хлебаробы стараюцца штодзень перавыконваць нормы выпрацоўкі, каб зарабіць ад 150 тысяч і болей рублёў за дзень. Веснавая сяўба патрабуе шмат намаганняў, арганізаванасці і дысцыпліны, але ў раёне робяць усё, каб быць зноў з хлебам. Дарэчы, летась у гэтым рэгіёне 21 камбайнер намалаціў больш тысячы тон збожжа, а рапса сабралі ў 4 разы болей, чым у 2010 годзе.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Серада 09.05.12 | | | | Чацвер 10.05.12 | | | | Пятніца 11.05.12 | | | | Субота 12.05.12 | | | | Нд. 13.05.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +7 | +11 | +17 | +14 | +11 | +14 | +19 | +16 | +12 | +17 | +23 | +19 | +17 | +13 | +10 | +9 | +7 | +8 | +12 |
| Ціск | 751 | 751 | 752 | 751 | 752 | 753 | 753 | 752 | 752 | 751 | 749 | 746 | 744 | 744 | 746 | 745 | 747 | 748 | 749 |
| Вільготнасць | 83 | 80 | 67 | 78 | 94 | 91 | 57 | 68 | 85 | 66 | 46 | 53 | 70 | 90 | 77 | 53 | 68 | 66 | 58 |
| Вецер м/сек | 4 | 3 | 2 | 3 | 1 | 2 | 3 | 2 | 3 | 5 | 7 | 5 | 6 | 7 | 6 | 3 | 4 | 5 | 3 |

# Лічба нумара

**381** – столькі асуджаных вязняў, па дадзеных міжнароднай арганізацыі International Center for Prison Studies, прыходзіцца зараз у Беларусі на 100 тысяч чалавек насельніцтва. Па гэтаму паказчыку, мала хто ведае, наша краіна займае даволі сумнае, нават 17-е месца ў свеце сярод 169 дзяржаў, якіх адсочвае ААН па індэксу развіцця чалавечага патэнцыялу. Дагэтуль, у нас столькі было размоў аб нібыта стабільнай і квітнеючай краіне ў цэнтры Еўропы. Беларусаў прыводзілі ў прыклад іншым постсавецкім рэспублікам, аднак аказваецца, што ганарыцца няма чаму і такія лічбы наводзяць на роздум.

Справа ў тым, што яшчэ 20 гадоў назад у тагачаснай БССР, якая толькі што набыла дзяржаўны суверэнітэт, турэмная статыстыка выглядала лепей: у турмах сядзелі толькі 327 чалавек на 100 тысяч суайчыннікаў. Не хочацца, але трэба прызнаць, што Беларусь пакрыта густой сеткай папраўчых устаноў і калоній, а праваабаронцы сцвярджаюць, што за кратамі знаходзяцца і яшчэ 13 палітычна зняволеных, якіх, магчыма, амністыруюць да 3 ліпеня. Толькі ў Віцебскай вобласці размешчаны буйныя турмы ў Глыбокім, Наваполацку, абласным цэнтры і ў Оршы, не лічачы яшчэ мясцін абмежавання волі.

Увогуле яшчэ адзін міф аб нібыта парадку і спакоі, якія пануюць на нашай зямлі. Наша краіна, на жаль, працягвае "лідзіраваць" у свеце не толькі цяпер па росту цэн, абвалу сваёй нацыянальнай валюты летась адразу на 180 % і зніжэнню жыццёвага ўзроўню на трэць. У выніку па колькасці самазабойстваў Беларусь (дадзеныя за 2010 год) выйшла на жахлівае 4-е месца ў свеце. На 100 тысяч чалавек насельніцтва тады прыходзілася 26,8 трагічных выпадкаў суіцыду. Гэты вельмі сумны паказчык, дарэчы, у нас стабільны і на такім узроўні (25-27 фактаў на сто тысяч) трымаецца з сярэдзіны 90-х гадоў мінулага стагоддзя.

Можаце ўявіць, што кожны год добраахвотна пакідаюць гэты свет каля 3 тысяч суайчыннікаў. За 10 гадоў такім чынам знікае, верагодна не ад добрага жыцця, цэлы сярэдні па памерах беларускі раён з глыбінкі. Аднак пра такія праблемы не скажа чамусьці ніводны канал айчыннага дзяржаўнага тэлебачання, як і пра тое, што беларусы – адна з самых алкагалізаваных дзяржаў свету. Мы, пітушчая нацыя, паколькі ўваходзім у першую дзясятку краін свету па спажыванні алкаголю - у год 15 літраў на чалавека.

Зрэшты, паміж павышаным спажываннем гарэлкі, віна і ростам самазабойстваў, злачыннасці і павелічэннем колькасці зняволеных, як сцвярджаюць спецыялісты, існуе прамая і прапарцыянальная залежнасць. Іншая справа, што беларуская папраўчая ўстановы, турмы і калоніі – занадта перапоўненыя, а ў краіне няма ніводнага шпіталя для цяжка хворых асуджаных. Жахліва і тое, што ўжо тысячы людзей асуджаны ў Беларусі па эканамічных артыкулах. Колькі ўжо таленавітых людзей, дырэктараў буйных айчынных прадпрыемстваў, пачынаючы з былога прэм'ера Міхаіла Чыгіра, прайшлі праз турэмныя засценкі.

Не дадае аптымізму тое, што ў Беларусі, адзінай у Еўропе, захоўваецца смяротнае пакаранне. Жыццё ў XXI стагоддзі вымагае хутчэйшых змен у Крымінальным кодэксе. Сур'ёзная праблема таксама – медыцынскае абслугоўванне калоній. Адзін з нядаўна вызваленых з турмы, даверанная асоба кандыдата ў прэзідэнты Дзмітрый Бандарэнка расказаў журналістам, што пакуль ён знаходзіўся ў турэмнай медсанчасці з-за праблем са спіной, там за кароткі тэрмін памерлі 13 чалавек. На беларускай зоне проста небяспечна стала знаходзіцца, паколькі там распаўсюджаны туберкулёз, потым можа пачацца рак, інфаркты і інсульты пасля перанесеных перажыванняў.

Грамадства мала кантралюе жыццё за калючым дротам, і невыпадкова сусветная супольнасць даволі рэзка крытыкуе сітуацыю ў Беларусі з правамі чалавека. Такая пакуль у нас абстаноўка з жыццём у няволі, куды можа трапіць практычна кожны з нас хоць бы на некалькі сутак за дробную правіннасць. Карысна пабачыць сябе з іншага боку. Вось па ўзроўні заробкаў Беларусь адкацілася на апошняе месца ў Еўропе і па паказчыках ААН развіцця чалавецтва апусцілася на 65-е месца ў свеце ( 10 гадоў назад беларусы займалі 56-е месца). Нашу краіну адносяць таксама ў свеце да ворагаў свабоды прэсы і Інтэрнэту і да дзяржаў з несвабоднай эканомікай і самавольствам чыноўнікаў. Таму так мы і жывём…

## Дзень за днём

**У Мытным саюзе заробкі беларусаў складаюць цяпер толькі 44,1% ад узроўню расійскіх і 62,5% ад зарплат казахаў. У адказ на санкцыі ЕС Беларусь перайшла на ахову сваёй заходняй граніцы ў аблегчаным рэжыме, узмацніла кантроль за ўездам у краіну. Для беларусаў знізілі ўзрост для абавязковага атрымання пашпартоў з 16 да 14 гадоў. Яшчэ мінімум на 3 гады еўрапейскі саміт міністраў адукацыі адлучыў Беларусь ад Балонскага працэсу за ігнараванне прынцыпаў дэмакратыі студэнцкага жыцця ВНУ. У працаздольным узросце гэты свет пакінулі летась 32 тысячы беларусаў, практычна кожны чацвёрты нябожчык.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Міністр абароны Леон Панета пацвердзіў, што ваенныя сілы краіны завяршылі распрацоўку плана нападзення на ядзерныя аб'екты Ірана, які стварае атамную зброю.

**Францыя.** Упершыню з 1958 года дзеючы прэзідэнт Мікаля Сарказі не перамог у першым туры прэзідэнцкіх выбараў, у чэрвені французам выбіраць і новы склад парламенту.

**Пакістан.** Прычынай крушэння пры заходзе на пасадку пасажырскага самалёта "Боінга" і гібелі 127 пасажыраў, членаў экіпажа стаў выбух паліўных бакаў на вышыні 50 м ад зямлі.

**Чэхія.** У сталіцы Празе прайшлі масавыя акцыі пратэсту (да 120 тысяч чалавек) супраць прынятых урадам мер жорсткай эканоміі сродкаў і распаўсюджвання карупцыі ў краіне.

**Англія.** Урад краіны дазволіў кампаніі Cuadrilla аднавіць пошук буйных запасаў сланцавага газу, хоць раней гэтыя работы выклікалі летась два падземныя штуршкі.

**Галандыя.** У выніку незразумелага сутыкнення двух пасажырскіх цягнікоў у 3 км ад цэнтра сталіцы Амстэрдама загінула адна пасажырка, дзясяткі чалавек былі паранены.

**Літва.** Міністэрства транспарту рэкамендавала літоўскім фірмам устрымацца ад транзіту грузаў у РФ праз Беларусь з-за затрымак фур, прыдзіркі і ўзмоцнены кантроль машын.

**Расія.** Прэзідэнт Д. Мядзведзеў падпісаў указ аб стварэнні з 1 студзеня 2013 года новага Грамадскага тэлебачання з бясплатным распаўсюджваннем па ўсёй тэрыторыі РФ.

**Польшча.** Дырэктар-распарадчык МВФ Крысцін Лагард падзякавала польскі ўрад за абяцаную падтрымку фонду і за пералічэнне на яго рахунак 8 млрд. долараў пазыкі.

**Швецыя.** Нобелеўскі камітэт прыняў кандыдатуру асуджанага на 4,5 гады беларускага праваабаронцы А. Бяляцкага на прэмію міру, яго вылучылі парламенты 27 краін Еўропы.

**В'етнам.** Медыкі краіны запрасілі міжнародных экспертаў дапамагчы выявіць прычыны невядомай хваробы скуры, ад якой загінулі 19 дзяцей і падлеткаў, заразіліся 146 чаалавек.

**КНДР.** Ваеннае кіраўніцтва напоўгалоднай краіны прыгразіла вайной суседняй Карэі, знішчыць Сеул пасля канфузу з запускам ракеты, гэты пуск каштаваў 850 мільёнаў долараў.

**Кітай.** З-за ўспышкі птушынага грыпу на захадзе краіны ў Нінся-Хуэйскім аўтаномным раёне прыйшлося знішчыць болей 95 тысяч курэй, каб прадухіліць рост эпідэміі.

**Японія.** У краіне з'явіліся першыя ў свеце банкаматы з спецыяльнымі біясканерамі, якія выдаюць грошы па адбітках далоней, бо пасля цунамі ў многіх не было дакументаў і карт.

**Расія.** Па звестках фонда "Грамадская думка", цяпер большасць расіян (56 % нацыі) выступаюць за пахаванне цела Леніна, трэць народа ставіцца да асобы Ільіча абыякава.

# Беларусь здымае абмежаванні на ўкраінскае піва, Украіна — на беларускае малако




■ Паводле БелТА

**Скончыўся гучны гандлёвы канфлікт. Беларусь здымае абмежаванні на ўкраінскае піва, Украіна — на беларускае малако. Аб гэтым дамовіліся 3 мая ў Мінску першы віцэ-прэм'ер Беларусі Уладзімір Сямашка і міністр эканамічнага развіцця і гандлю Украіны Пятро Парашэнка.**

«Сёння мы закрываем тэму па піву, — адзначыў Уладзімір Сямашка. — Ёсць невялікае арганізацыйнае пытанне, але ў цэлым праблема закрыта».

Паводле словаў Пятра Парашэнкі, знятыя пытанні як з пункту гледжання цэнавых фармальнасцей, так і з пункту гледжання мытнага афармлення. «За што мы вельмі ўдзячныя беларускім калегам», — дадаў Пётр Парашэнка.

Як паведамлялася, імпарт піва з Украіны ў Беларусь быў часова абмежаваны ў канцы 2010 года. У той час доля ўкраінскага піва дасягала 32 працэнты беларускага рынку, гэтая імпартная прадукцыя мела больш прывабную цану, чым аналагічная айчынная. Таму Саўмін Беларусі прыняў пастанову нумар 1860 ад 21 снежня 2010 года, згодна з якой імпарт у Беларусь украінскага соладавага піва да 31 снежня 2012 года павінен ажыццяўляцца па разавых ліцэнзіях, што выдаюцца Міністэрствам гандлю па ўзгадненню з канцэрнам «Белдзяржхарчпрам». Для атрымання ліцэнзіі ўкраінскім півоварам неабходна ўзгадніць мінімальныя цэны з канцэрнам. Гэта пастанова прызначана была паставіць беларускіх і замежных вытворцаў у роўныя ўмовы і не допусціць ўвозу імпартнага піва па цэнах ніжэйшых за айчынныя.

У ходзе перагавораў бакі дасягнулі кампрамісу: былі падпісаны цэнавыя пагадненні з шэрагам украінскіх кампаній, адбыўся дыялог аб узаемавыгадных пастаўках беларускага піва ва Украіну і ўкраінскага піва ў Беларусь.

Як мяркуецца, паралельна ўкраінскі бок зніме штучныя бар'еры на шляху беларускай малочнай прадукцыі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Міністр эканомікі Мікалай Снапкоў заявіў, што пакуль складана казаць, што Беларусь выйшла з крызіса, бо рост цэн захаваецца сёлета на ўзроўні 1,5 % кожны месяц.

**Гродна.** Супрацоўнікі Следчага камітэта змаглі адшукаць і пераканаць здацца салдата-дзезерціра са Шчучынскага раёна, які 18 гадоў назад пакінуў часць па ахове калоніі.

**Гомель.** У адным з магазінаў горада спрацавала самаробнае тэрарыстычнае ўстройства, пры выбуху ніхто сур'ёзна не пацярпеў, КДБ мяркуе замежны след яго паходжання.

**Мазыр.** За атрыманне хабару (аўтамабіля) у буйным памеры арыштавалі падпалкоўніка, намесніка начальніка папраўчай калоніі №20, ён палепшыў умовы ўтрымання асуджаным.

**Баранавічы.** Фільм ураджэнца горада, рэжысёра Сяргея Лазніцы "У тумане" па повесці В. Быкава ўпершыню ў гісторыі беларускага кіно прайшоў адбор на Канскі кінафестываль.

**Ліда.** Былы сенатар, дырэктар буйнейшай у РБ гаспадаркі "Мажэйкава" 59-гадовы Казімір Рахатка на джыпе днём протараніў аўто, яго кіроўца загінуў, 6 пасажыраў было паранена.

**Смалявічы.** Каля пасёлка Зялёны Бор у лесе знайшлі вельмі шмат непахаваных невядомых чалавечых астанкаў, у чэрвені 52-гі асобны пошукавы батальён пачне тут раскопкі.

**Кобрын.** Глава бандыцкай групоўкі з чатырох чалавек атрымаў 7 гадоў турмы. Гэтая банда патрабавала грошы і паграджала расправай бізнесменам рэгіёна, асуджаны таксама і яго падзельнікі

**Пінск.** У дзіцячым рэабілітацыйна-аздараўленчым цэнтры "Світанак" у вёсцы Пагост-Загародскі атрымалі харчовае атручэнне больш 20 дзетак 8-9 гадоў і трапілі ў бальніцу.

**Свіслач.** Больш 4 тон брагі і самагону знайшлі днём супрацоўнікі РАУС у нацпарку "Белавежская пушча", дзе свой міні-завод размясцілі трое вясковых самагоншчыкаў.

**Мінск.** Позна ноччу на вуліцы Райніса ў сталіцы згарэлі адразу 5 прыпаркаваных легкавых аўтамабіляў, пажар пачаўся з узгарання міліцэйскага УАЗіка (2007 года выпуску).

**Пружаны.** Па гарачых слядах міліцыя знайшла дваіх маладых непрацуючых жыхароў вёскі Руднікі, якія ноччу скралі 155 металічных рашотак ліўнёвай каналізацыі калгаса.

**Баранавічы.** Маленькі хлопчык 2010 года нараджэння цудам выжыў пасля абрушэння вечарам столі на кухні ў зношаным часам драўляным доме 1945 года пабудовы.

**Жлобін.** На палігоне бытавых адходаў Беларускага металургічнага завода ля вёскі Праскурні знайшлі таксічную ёмкасць з 9 кг ртуці, спецыялісты МНС вывезлі атруту.

**Мінск.** За 100 дзён да пачатку Алімпіяды-2012 у Лондане Беларусь заваявала 119 ліцэнзій у 22 відах спорту, туды дэлегацыя паляціць самалётамі "Белавіі", "Аўстрыйскіх авіяліній".

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З-за недахопу сродкаў толькі летась на Віцебшчыне закрылі 44 установы культуры, 27 школ, 1 дзэтдом, сёлета намечана закрыць, рэарганізаваць яшчэ 52 установы.

**Полацк.** Кіраўнік вобласці А. Косінец прапанаваў правесці абласны суботнік, зробленыя грошы пералічыць у бюджэт горада да свята 1150-годдзя духоўнага цэнтра Беларусі.

**Орша.** На мясцовым малочным камбінаце запусцілі новую лінію па вытворчасці малака з доўгім тэрмінам захоўвання 30 сутак і прадукцыйнасцю да 5 тысяч літраў у гадзіну.

**Віцебск.** Нават у абласным цэнтры у крамах людзі стаяць у чэргах за танным сацыяльным малаком па 4 гадзіны, паўсюдна за ім у магазінах вобласці узнікаюць даўка і нават бойкі .

**Глыбокае.** На малочнакансервным камбінаце вырашылі зманціраваць новую вытворчую лінію па выпуску малака ў сучасныя экалагічныя пакеты "Тэтра-Брык Асептык".

**Браслаў.** Галоўны пpыз XV па ліку конкурса "Лепшы прадпрымальнік Віцебскай вобласці-2011" у намінацыі "гандаль" атрымала мясцовая фірма "Звяздаарктур".

**Віцебск.** Без тлумачэння прычын быў адпраўлены ў адстаўку палкоўнік Генадзь Герасіменка з пасады начальніка КДБ па Віцебскай вобласці і залічаны ў рэзерв службы.

**Паставы.** Аграбудфірма "Рассвет Пастаўскі" пачала чарговы этап рэканструкцыі Палаца Тызенгаўза ў райцэнтры за сродкі ЕС па аднаўленні ўсіх падвальных памяшканняў.

**Глыбокае.** У адным з духоўных цэнтраў раёна, вёсцы Мосар, пры хрaмесанктуарыі св. Юстына адкрылася парафіяльная бібліятэка імя слаўтага святара Папы Яна Паўла II.

**Наваполацк.** Гарадскі суд пакараў 3 гадамі турмы і буйным штрафам раней судзімага за падпал аўто разам са знаёмым алкашом былога начальніка ізалятара гарадскога аддзела міліцыі.

**Лёзна.** Жыхароў вёскі Высачаны шакіраваў факт масавага расстрэлу днём вясковых сабак у прысутнасці ўчастковага інспектара міліцыі на вачах у дзяцей і іншых прахожых.

**Гарадок.** У райцэнтры сёлета з дзяржпадтрымкай пабудуюць толькі адзін 40-кватэрны жылы дом, у чарзе на жыллё больш тысячы чалавек, 8 інвалідаў, каля 50 шматдзетных.

**Глыбокае.** У цэнтры горада на старшакласніцу напала, як высветлілася потым, шалёная андатра, дзяўчына ад укусу не пацярпела, звярок парваў ёй толькі куртку.

**Сянно.** Следчы камітэт распачаў крымінальную справу супраць даяркі з вёскі Барок, якая незразумела дзеля чаго скрала від на жыхарства ў РБ у нецвярозага ўзбека-аграномa.

**Віцебск.** Заслужаны калектыў РБ Беларускі тэатр "Лялька" парадаваў гледачоў чарговай прэм'ерай "Ямелева шчасце", у госці да віцьблян прыязджалі калегі з Валгаграда (Расія).

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Пачаў кляваць лін



Спадар Яўген Самсонаў, адзін з нашых аўтараў, з'ездзіў на рэчку Галбею і злавіў ладнага ліна. Сцвярджае, што яшчэ двух ліноў пад 5 кг цягнуў, але не дацягнуў да берага. Адарваліся.

А чаго спадар Самсонаў завітаў да аўтара здымка? Таго, каб той шкадаваў, што не адгукнуўся на яго прапанову паехаць разам на рыбалку.

Вось так ёсць: адны рыбу вудзяць, іншыя гарбяць над газетай!

*Фота Уладзіміра Скрабатуна.*




*Кацярыну Сямёнаўну Шчасную*

**Віншуем з Днём нараджэння!**



Струится глаз твоих тепло,
Оно согрело в жизни многих.
Не говори, что всё прошло,
Всё лучшее ещё в дороге.
Прими, родная, наш привет.
Пусть обойдут тебя ненастья.
Желаем долгих, долгих лет,
Здоровья крепкого и счастья!

*Дзеці, унукі.*

*Іну Сядову*

**Віншуем з Днём нараджэння!**



День рождения - прекрасная дата,
Не беда, что уходят года.
Жизнь настолько светла и прекрасна,
Что не стоит грустить никогда.
Желаем здоровья на долгие годы,
Пусть мимо пройдут все печали, невзгоды,
Пусть радостью, счастьем искрятся глаза,
И только от смеха сверкает слеза!

*Калектыў "ВГ"*

**Віншуем**

*Веру Мікалаеўну Пятух*

**з Юбілеем!**

Дарагая матулечка! Здароўя табе, радасці,
веснавога сонейка, толькі добрых навін ад дзяцей,
няхай цябе беражэ Бог! Мы цябе любім, жадаем табе
радаваць нас яшчэ доўгія гады!

*Дзеці, унукі*

# Прадукцыя самага буйнога ў краіне падпольнага самагоннага завода пастаўлялася ў некалькі раёнаў Мінскай і Гродзенскай абласцей

**Прадукцыя ліквідаванага 3 мая самага буйнога ў краіне падпольнага стацыянарнага самагоннага завода ў вёсцы Баркі Маладзечанскага раёна пастаўлялася больш чым у 30 самагонных «пунктаў», размешчаных у Маладзечанскім, Валожынскім, Смаргонскім і іншых раёнах. Цяпер працягваюцца мерапрыемствы па ўстанаўленні каналаў рэалізацыі спіртнога. Пра гэта паведамілі ў аддзяленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Мінскага аблвыканкама.**

Нагадаем, учора супрацоўнікі УУС Мінаблвыканкама і ГУУС Мінгарвыканкама, пры падтрымцы міліцэйскага спецназа на тэрыторыі вёскі Баркі выявілі найбуйнейшы ў Беларусі стацыянарны завод па вытворчасці самагону. Вага канфіскаванага абсталявання і ёмістасцяў склала больш чым 10 тон. У гаспадарчых пабудовах прыватнага дома знойдзена 20,6 тоны самагоннай брагі і 880 літраў гатовага да рэалізацыі спіртнога сурагату.

Непасрэдна нелегальнай вытворчасцю самагону займаліся некалькі нідзе не працуючых грамадзян.

Устаноўлена ўладальніца падпольнага завода — мясцовая жыхарка 1958 года нараджэння. У дачыненні да яе складзены пратаколы па фактах шэрагу парушэнняў КоАП, у прыватнасці, незаконнага вырабу і захоўвання самагоннага апарата, самагоннай брагі і самагону, парушэння правілаў супрацьпажарнай бяспекі, парушэння правілаў утрымання населеных пунктаў і інш. Лёс жанчыны будзе вырашаць суд Маладзечанскага раёна, аднак штраф складзе не менш чым 10 мільёнаў рублёў.

Незаконная вытворчасць самагону ў падобных маштабах выяўлялася на тэрыторыі краіны пяць гадоў таму, таксама ў Маладзечанскім раёне. Тады восенню 2007 года ў лясным масіве паблізу вёскі Клачкова быў знішчаны самагонны апарат з 50 тонамі брагі.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

# Уладальніцай тытула «Міс Беларусь – 2012» стала Юлія Скалковіч з Брэсцкага раёна

**Юлія Скалковіч з вёскі Клейнікі Брэсцкага раёна стала ўладальніцай тытула «Міс Беларусь — 2012». Фінал VIII Нацыянальнага конкурсу прыгажосці прайшоў вечарам 4 мая ў сталічным Палацы спорту.**

Уладальніцай тытула «Першая віцэ-міс» стала Вікторыя Шавель з пасёлка Чомкі Гомельскага раёна, «Другая віцэ-міс» — Анастасія Пагранічная з Жодзіна.



Перад тым, як вызначыць тройку пераможніц, члены журы абралі дзясятку фіналістак, у якую таксама ўвайшлі: Наталля Брыштэн («Міс топ-мадэль»), Вольга Нікіфарава («Міс талент»), Таццяна Давыдзенка («Міс сімпатый гледачоў»), Іна Канавалава («Міс дружба»), Марыя Вялічка («Міс дабрачыннасць»), Аксана Луканава і Марына Казлова.

Юлія Скалковіч з'яўляецца таксама ўладальніцай тытула «Міс фота», а Вікторыя Шавель — «Міс спорт».

Пераможніца атрымала пераходную карону з белага золата з фіянітамі і тапазамі і грашовы прыз у 50 млн. рублёў. Яна будзе выступаць ад Беларусі на конкурсе «Міс свету», а фіналісткі змогуць удзельнічаць у іншых міжнародных конкурсах, такіх як «Міс Еўропа», «Міс Інтэрkантынентэль», «Міс Інтэрнэшнл».

Уладальніцы ўсіх тытулаў таксама атрымалі прызы ў выглядзе грашовых прэмій.

Адбор на конкурс «Міс Беларусь — 2012» праходзіў ва ўсіх абласцях краіны з 8 па 21 верасня мінулага года. На кастынгі прыйшлі больш за тысячу дзяўчат, з якіх журы адабрала 192. У другім адборачным туры колькасць канкурсантак скарацілася да 42, а ў паўфінал выйшлі 28 удзельніц.

*Анастасія Салановіч, БелаПАН.*

## У студзені-сакавіку спажывецкія цэны ў Беларусі раслі ў 1,9-10 разоў хутчэй, чым у іншых краінах былога СССР

**Беларусь заняла першае месца сярод краін былога СССР па росту спажывецкіх цэн у студзені-сакавіку 2012 года да снежня 2011-га (5%). Аб гэтым сведчыць праведзены БелаПАН аналіз звестак нацыянальных органаў статыстыкі.**

Па выніках трох месяцаў гэтага года ў Арменіі цэны павялічыліся на 2,7%, у Эстоніі — на 2,1%, Літве — на 1,7%, Латвіі — на 1,6%, Расіі — на 1,5%, Таджыкістане — на 1,2%, Казахстане — на 1,1%, Малдове — на 1%, Кыргызстане — на 0,9%, Украіне — на 0,7%, Азербайджане і Грузіі — на 0,5%. Такім чынам, цэны ў Беларусі раслі хутчэй у 1,9—10 разоў.

У Туркменістане за першы квартал цэны знізіліся на 0,8%. Па Узбекістану звестак няма.

У сакавіку цэны ў Беларусі выраслі на 1,5% — таксама першае месца. Далей ідуць Літва, Эстонія (па 1%), Латвія, Расія, Таджыкістан (па 0,6%), Азербайджан, Казахстан, Украіна (па 0,3%), Малдова (0,2%) і Арменія (0,1%). У Кыргызстане цэны не змяніліся. Дэфляцыя адзначана ў Грузіі (0,2%). Няма звестак па Туркменістану і Узбекістану.

У 2011 годзе Беларусь заняла першае месца сярод краін былога СССР па росту спажывецкіх цэн (108,7%). З 1 па 25 красавіка 2012 года цэны павысіліся на 1,4%, з пачатку года — на 6,5%.

*Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.*

# «Мінскі фестываль агню» ўпершыню пройдзе 19-20 мая

19 і 20 мая на мінскім стадыёне «Трактар» упершыню ў Беларусі пройдзе «Мінскі фестываль агню», паведамілі БелаПАН арганізатары шоу.

Мерапрыемства збярэ на адной пляцоўцы лепшых прадстаўнікоў агнявога мастацтва Беларусі, Украіны, Расіі, Венгрыі і Літвы.

Як адзначылі арганізатары, родапачынальнікам агнявых фестываляў з'яўляецца Германія, якая ўжо на працягу 15 гадоў штогод збірае на падобныя мерапрыемствы некалькі дзясяткаў тысяч турыстаў і гасцей. Першай краінай СНД, якая стала праводзіць агнявыя фестывалі, стала Украіна. Следам за ёй ідэю агнявых шоу падхапіла Расія.

У рамках фестывалю пройдзе выступленне цыркавых калектываў і рок-гуртоў, конкурс графіці, фота- і мотавыстава, выстава рэтрааўтамабіляў і вернісаж ад лепшых мастакоў вінілаграфіі. На фестывальным кірмашы будуць прадстаўлены інструменты, з якімі працуюць артысты агнявога шоу, а самі яны падзеляцца сакрэтамі майстэрства на прафесійных майстар-класах, у якіх можа ўзяць удзел любы ахвотны. Пройдзе і фестываль роўпджампінгу і альпінізму.

У вячэрняй праграме адбудуцца паказальныя выступленні сусветных зорак агнявога і цыркавога жанру, фаер-батлы, фестываль агнявых інсталяцый і вялікае піратэхнічнае шоу. Музычнае суправаджэнне забяспечаць гурты «БезПанікі» і Drum Ecstasy.

Апоўнач агнявое шоу зменіць музычны Open Air ад лепшых беларускіх дзіджэяў — DJ Selebrium, DJ 4 kuba, DJ Mad Mouse, DJ Soca Toka, DJ Malk, DJ Mikser і DJ Vlad Ostrovsky. Вечарынка пад адкрытым небам пройдзе пры падтрымцы вядомых персанажаў клубнага жыцця краіны — MC Bond і MC Андрэй Рыбакін.

На тэрыторыі фестывалю таксама будуць арганізаваныя кальян-домікі, ціры, пункты грамадскага харчавання. Усе ахвотныя змогуць на месцы набыць агнявое і светлавое абсталяванне, а таксама розныя аксесуары фаер-шоу.

*Марына Носава, БелаПАН*

# Мястэчка Глыбокае



**Аляксандр Івашчонак,**
*бакалаўр гісторыі, г.Нэапаль, Італія.*

**Працяг.**

*Пачатак у №4(616) , №5 (617), №6 (618), №7(619), №8(620), №9 (621), №10(622); №11 (623), №12 (624), №13(625), №14 (626), №15 (627), №16 (628), №17 (629) за 2012 год.*

**Публікацыя захоўвае стыль і правапіс аўтара.**

## Адукацыя ў Глыбоцкім кляштары

Язэп Корсак, закладаючы кляштар Кармэлітаў босых у мястэчку Глыбокім, напісаў у сваім тэстамэнце[1], што жадае, каб манахі ў гэтым кляштары здабывалі веды. Фундатар жадаў, каб пры кляштары быў створаны навіцыят – ад лац. novus, noviciatus – новы, нявопытны – перыяд пачатку манаскага жыцьця ў каталіцтве. Гэты перыяд працягваўся адзін kананічны год (12 месяцаў), які заканчваўся складаньнем манаскай прафэсіі – 3 шлюбаў (абетаў) – паслухмяства, чысьціні і беднасьці.

Падчас навіцыяту маладыя асобы, якія жадалі стацца манахамі, здабывалі адпаведныя веды пра веру, катэхізм, манаскія статуты, гісторыю ордэна і гд. У каталіцтве кляштары тага самага ордэна аб’ядноўваліся ў адну правінцыю. Усе кляштары Кармэлітаў босых у Рэчы Паспалітай былі аб’яднаныя ў Польскую правінцыю Сьвятога Духа Кармэлітаў босых, якая паўстала ў 1617 г. Згодна з кананічным правам ва ўсёй правінцыі мог быць толькі адзін кляштар, пры якім быў навіцыят (Кракаў). Такім чынам, усе асобы, якія жадалі быць Кармэлітамі, павінныя былі ехаць у кракаўскі кляштар, дзе быў навіцыят і толькі пасьля заканчэньня навіцыяту, маладых манахаў высылалі ў розныя кляштары правінцыі. Аднак з-за вялікай тэрыторыі Рэчы Паспалітай такое становішча было досыць складаным. Напрыклад, асоба з Віцебска, якая б жадала быць манахам Кармэлітам, маючы кармэлітанскія кляштары ў Глыбокім, Вільне ці Гродне, не зважаючы на гэта мусіла б ехаць ў Кракаў.



Слуп Вольта.

У 2-й палове XVII ст. Кармэліты пастанавілі стварыць дапаможны навіцыят у Вільні, куды прыязджалі б асобы з тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ). Аднак у 1727 г. навіцыят быў перанесены зь Вільні ў Глыбокае, дзе быў урачыста адчынены 15 жніўня 1727 г.

У 1731 г. адбыўся падзел польскай правінцыі Кармэлітаў, з якой была вылучана новая Літоўская правінцыя сьв. Казіміра з цэнтрам у Вільні і кананічным навіцыятам у Глыбокім. Таму ўсе манахі Кармэліты, якія працавалі на тэрыторыі ВКЛ ад 1727 года аж да 1864, прайшлі праз глыбоцкі кляштар, усе яны атрымалі пачатковую адукацыю менавіта ў Глыбокім.

Дзеля прыгатаваньня маладых манахаў у Глыбокім былі сканцэнтраваныя найбольш вучоныя манахі. Сьмела можна сказаць, што ў глыбоцкім кляштары была “сьмятанка” Літоўскай правінцыі Кармэлітаў босых – выдатныя прыёры, пісьменьнікі, архітэктары, а таксама прафэсары. Імёны некаторых глыбоцкіх выкладчыкаў ужо згадваліся ў папярэдніх нумарах. Аднак варта дадаць таксама і іншыя. Сярод іх айцец Габрыэль Ангірскі, айцец Аляксандар Ёдка, айцец Марц’яліс Мацкевіч, айцец Паўлін Рагоўскі, айцец Даніэль Бушкевіч, айцец Апалінары Хэжодовіч, айцец Сэбасцьян Алдаўскі, айцец Фаўстын Ільлініч, айцец Геронім Сецінскі, айцец Цыпрыян Сасноўскі, а таксама іншыя.

Чым адрозьніваўся глыбоцкі кляштар ад іншых, а таксама, чым адрозьніваліся глыбоцкія прафэсары ад іншых? Перш за ўсё, мэтодыкай працы! Бо, перад тым, каб стацца манахам, малады хлопец перш за ўсё павінен быў скончыць навуку ў канвікце ў Беразьвеччы ці іншай навучальнай установе. Таму, калі такі хлопец прыходзіў у кляштар у навіцыят, то ён ужо меў вельмі салідныя навуковыя базы. Таму, разумныя глыбоцкія манахі, каб не вучыць яшчэ раз таго самага, пастанавілі займацца пашырэньнем навуковых гарызонтаў.

На патрэбы навіцыяту пры кляштары ў Глыбокім прыёрамі быў створаны адпаведны габінэт (зала) для навукі. Гэтая зала служыла ня толькі як мейсца навукі рэлігіі, але таксама іншых прадмэтаў: фізікі, хіміі, біялогіі. У Глыбокім маладых манахаў вучылі ня толькі лацінскай мове, але і французскай, і расейскай, акрамя таго вучылі граматыцы польскай мовы, арыфмэтыцы, геаграфіі і філасофіі. Каб навука адбывалася на адпаведным узроўні, трэба было мець добрае навуковае заплечча. Дзеля гэтага глыбоцкімі прыёрамі быў зроблены і ўладкаваны спэцыяльны габінэт, дзе і адбывалася навука маладых манахаў.

**Сьмела можна сказаць, што ў глыбоцкім кляштары была “сьмятанка” Літоўскай правінцыі Кармэлітаў босых – выдатныя прыёры, пісьменьнікі, архітэктары, а таксама прафэсары.**

Захавалася апісаньне гэтага габінэту з першай паловы XIX ст. Такім чынам, у габінэце знаходзіўся: гіпсавы бюст імпэратара Аляксандра I, мазаіка Маці Божай у пазалочанай рамцы, абраз Маці Божай з Езусам італьянскай работы, 4 карціны італьянскай работы, 30 папяровых карцін італьянскай работы з англійскім шклом, 8 капэрштыхаў (гравюр) Ватыкану пакрытых лакам, 7 лакераваных арабэскаў у рамках, 6 розных лакераваных капэрштыхаў у рамках, 6 розных лакераваных партрэтаў у рамках, партрэты ўсіх польскіх каралёў. Акрамя таго ў габінэце былі таксама два глобусы: адзін зямны і адзін нябесны, гальвінічны слуп, магніт, магнітныя іголкі за шклом апраўленыя дрэвам, люстэрка, павялічальнае шкло, два компасы, 5 штук маленькага шкла з выявамі розных фігур, два мікраскопы, калейдаскоп з 97 рознымі выявамі, пячатка Язэпа Корсака і касьцёльная пячатка, электрычная машына Вольта, электрычная батарэя для штучнай маланкі, драўляная хатка з двумя кандуктарамі для зьбіраньня электрычнасьці, крышталёвая фізічная лямпа, пнэўматычная машына з 3 срэбнымі званочкамі, медная бляха з выявай Язэпа Корсака, дубовы стол, капілярная трубка, какосавы арэх з 3 кветкамі таго самага арэха, скрыня з 7 шуфлядамі, у якіх былі сабраныя розныя тыпы камянёў, каралавае дрэва, стравусіныя яйкі, марскі рак, луска карпа, вустрыцы, чарапаха, скрынкі з 54 тыпамі розных камянёў і гд.

**Ня ўсе дзяржаўныя ўнівэрсытэты мелі такія мэханізмы й прылады, якія меў навіцыят пры глыбоцкім кляштары Кармэлітаў босых!**

Акрамя таго, гэты габінэт меў таксама і сваю бібліятэку (не блытаць з кляштарнай бібліятэкай). Гэтая бібліятэчка ўяўляла сабой вялікую драўляную шафу з ашклёнымі дзьвярамі, якія замыкаліся францускім замком. У гэтай шафе было: 105 італьянскіх гравюр розных сьвятых, 101 розных італьянскіх гравюр, 108 гравюр з гісторыяй Сьвятога Пісаньня, 195 гравюр канону пантыфікальнай імшы, кнігі статутаў ВКЛ, 127 гравюр габрэйскіх патрыярхаў і каралёў, 128 гравюр розных рымскіх абразоў Маці Божай, падручнік па старажытнай геаграфіі, падручнік па архітэктуры, школьны атлас, розныя мапы[2], 407 гравюр Рыма і гд.

Як бачна, гэтае заплечча было вельмі багатым, варта падкрэсьліць, што ў тыя часы толькі ўнівэрсытэты мелі такую вялікую лічбу рознага тыпу прыладаў і механізмаў. Сёньня можна прачытаць у розных падручніках, што менавіта сьвятары і манахі найбольш перашкаджалі ў развіцьці навукі, асабліва фізікі ці біялогіі. Усё гэта няпраўда. На прыкладзе Глыбокага мы бачым, што менавіта манахі былі тымі, хто развівалі мэдыцыну, ствaралі першыя аптэкі, самі выраблялі лекі, менавіта ў кляштары зьявіліся першыя электрычныя мэханізмы і апараты, і гэта ў тыя часы, калі не кожны дзяржаўны ўнівэрсытэт меў падобныя прылады. Менавіта ў кляштарах вучылі фізыцы і хіміі ці геаграфіі.

На жаль, пасьля закрыцьця кляштара расейскімі ўладамі ў 1864 г., усе гэтыя навуковыя скарбы пакінулі Глыбокае, частка зь іх патрапіла ў Вільню, дзе некаторыя экзэмпляры можна пабачыць і сёньня ў музэі Віленскага ўнівэрсытэту. Частка рэчаў з глыбоцкага габінэту патрапіла ў Кіеўскі ўнівэрсытэт, а частка, на жаль, была раскрадзеная і зьнішчаная самімі Глыбачанамі. Шкада, што мы ня ўмеем цаніць і берагчы нашай спадчыны.

**Такія гравюры з выявамі Рыма меў навіцыят пры глыбоцкім кляштары Кармэлітаў босых.**











**Заўвагі рэдакцыі:**

[1] завяшчаньне.

[2] у цяперашні час у сувязі зь вялікім ужыткам слоў «карта» («карта паляка»), «картка» (банкаўская картка, фотакартка і г.д.)..., беларускія мовазнаўцы раяць заміж выражэньня «геаграфічная карта» ужываць пры напісаньні адпаведнік – «мапа». Заўважым пры гэтым, што абодвы словы («карта» і «мапа») маюць інтэрнацыянальнае паходжаньне.

А.Р.Лукашэнка:

# «Нашто масава знішчаць прыдарожныя лесапалосы?»

**Кіраўнік дзяржавы звярнуўся да тэмы, якую ўжо ўзнімала і нашая газета, — абурыўся высечкай лесапалосаў на Магілёўшчыне.**

Аляксандр Лукашэнка выказаў насцярожанасць тым, што уздоўж дарог выкарчоўваюць дрэвы і іншую расліннасць. Пра гэта ён заявіў падчас сустрэчы са старшынёй Мінабалвыканкама Барысам Батурам. «Тое, што раней высаджвалі спецыяльна як ахоўныя палосы, сёння пачынаюць выдзіраць, рэзаць, пілаваць і гэтак далей. Добра, калі дзесьці гэта трэба зрабіць. Але навошта гэта рабіць масава? — цытуе словы Аляксандра Лукашэнкі агенцтва БелТА. — Мы не такія багатыя, каб марнаваць на гэта шалёныя грошы. Бо на гэтай палосцы асаблівага ўраджаю не атрымаеш. Ёсць месца на палях, цэлыя плошчы трэба раскарчоўваць.

Гэта значыць, нашы продкі ўздоўж дарог высаджвалі дрэвы, а мы цяпер пачынаем пілаваць.

У Магілёўскай вобласці мяне гэта здзівіла».

«Вольнае Глыбокае» неаднаразова звяртала ўвагу на суцэльную і неабгрунтаваную вырубку дрэваў у нашым рэгіёне.

Працы нібыта выконваліся паводле рашэнняў мясцовых уладаў, у прыватнасці кіраўнікоў аблвыканкамаў.

Работнікі лічылі такія дзенні няслушнымі, але не пярэчылі кіраўніцтву.

# Мінпрыроды зробіць захады па спыненні паўсямесных высечак дрэў уздоўж дарог

**Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя зробіць захады па спыненні паўсямесных высечак зялёных насаджэнняў уздоўж дарог. Пра гэта заявіў намеснік міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Анатоль Ліс 4 мая на сустрэчы з журналістамі ў Мінску.**

Паводле яго слоў, гэта праблема сёння актуальная ў Беларусі. У Мінпрыроды паступаюць шматлікія звароты ад грамадзян, якія настойваюць на спыненні масавай высечкі дрэў уздоўж дарог. Гэта пытанне нядаўна ўзнімалася дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Учора пры справаздачы губернатара Мінскай вобласці прэзідэнт Беларусі заявіў, што нельга бяздумна высякаць усе прыдарожныя палосы, зазначыў Ліс.

Як заявіў намеснік міністра, праблема высечкі прыдарожных дрэў — дастаткова цяжкая. У свой час у Беларусі было пасаджана 7,5 тыс. прыдарожных палос дрэў, на гэта былі затрачаныя «велізарныя сродкі». Аднак апошнім часам пры навядзенні парадку на зямлі мясцовыя ўлады ў многіх выпадках сталі ўключаць прыдарожныя палосы ў палі севазвароту і высякаць на іх дрэвы. Не заўсёды гэта робіцца абгрунтавана, падкрэсліў Ліс.

«Трэба вельмі ўважліва вывучаць сітуацыю, ёсць шмат пытанняў, асабліва там, дзе вельмі задзейнічаны трасы, ідзе вялікая колькасць транспарту, — сказаў намеснік міністра. — Вырошчваць у гэтых месцах сельгаскультуры зусім не эканамічна, не экалагічна, з медыцынскага пункту гледжання няма неабходнасці таму, што там цяжкія металы і г.д.». Паводле яго слоў, прыдарожныя палосы можна задзейнічаць для атрымання сельгаспрадукцыі, толькі калі яны знаходзяцца ў месцах, дзе практычна няма машын.

Намеснік міністра падкрэсліў, што па зваротах грамадзян Мінпрыроды накіравала дзясятак лістоў аблвыканкамам з просьбай больш уважліва паставіцца да праблемы высечкі зялёных насаджэнняў. «Дзе-нідзе мы ўжо прыпыняем высечкі», — сказаў ён. Паводле яго слоў, у хуткім часе Мінпрыроды і іншыя зацікаўленыя ведамствы нададуць гэтаму пытанню больш увагі: для кожнага канкрэтнага выпадку будзе прымацца рашэнне - ці варта выдаляць дрэвы ў прыдарожнай паласе або не.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*

# Нават у святы браканьеры робяць сваю чорную справу

**А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Вясна цалкам уступіла ў свае правы, вакол усё заквітнела, ажыло, зямля цалкам змянілася. Людзі апрацоўваюць зямлю, птушкі будуюць гнёзды, дзікія жывёлы чакаюць нашчадкаў, на жаль, у гэты ж час і браканьеры актывізуюць сваю дзейнасць.**

Толькі ў перыяд з 30 красавіка па 7 траўня супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі за парушэнне прыродаахоўнага заканадаўства затрымана больш 20 грамадзян, у адносінах 4 жыхароў Глыбоцкага раёна ўзбуджана 2 крымінальныя справы за браканьерства, канфіскавана амаль 1 км., браканьерскіх сетак, 80 кг. незаконна здабытай рыбы.

Амаль кожны дзень супрацоўнікі міжрайінспекцыі затрымоўваюць грамадзян, якія здзяйсняюць незаконныя дзеянні ў адносінах да прыроды, асобныя парушальнікі пасля затрымання іх інспектарамі, каб б пазбегнуць адказнасці пачынаюць пагражаць працаўнікам інспекцыі скаргамі ў розныя вышэйстаячыя інстанцыі, заяўляюць пра тое, што інспектары іх збіваюць, але пры гэтым, ніводны браканьер не звярнуўся ў медустанову.

Так, 2 траўня 2012 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі на канале, які злучае раку Плісоўку і сажалкі рыбгаса "Навінкі" Пастаўскага раёна быў затрыманы жыхар г.п. Варапаева грамадзянін Н., які пры дапамозе пад'ёмнай сеткі ажыццяўляў незаконную здабычу рыбы, але быў затрыманы. Убачыўшы, што інспектары пачалі складаць на яго адміністрацыйны пратакол, стаў пагражаць скаргамі ва ўсе магчымыя інстанцыі (ужо напісаў), затым зваліўся на зямлю і стаў крычаць, што яго збіваюць, хоць побач былі староннія грамадзяне, якія бачылі ўсё, што адбываецца, папрасіў выклікаць хуткую дапамогу, што інспектары і зрабілі. Парушальніка-сімулянта «хуткая дапамога» забрала ў бальніцу, з якой ён адразу ж сышоў, хоць тым часам, магчыма, камусьці сапраўды патрэбна была дапамога. Раённы суд ацэніць дзеянні парушальніка.

3 траўня 2012 года каля 6 гадзін раніцы працаўнікі міжрайінспекцыі на возеры Падлазнае г. Глыбокае затрымалі жыхара горада грамадзяніна К., які пры дапамозе восцяў здабываў ляшча, які ішоў на нераст, і карася. Вынесенае раённым судом грашовае «заахвочванне», спадзяемся, запомніцца грамадзяніну К. надоўга.

Першыя травеньскія дні для людзей азначающа святамі працы і асабліва святам Перамогі. Усе мы паважаем памяць нашых бацькоў і дзядоў, якія баранілі Радзіму і захавалі для нас мір і спакой.

Але, не гледзячы на святочныя дні, супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі штодня ажыццяўляюць сваю штодзённую працу па ахове прыроды, перарываючы спробы браканьерства, на жаль, нават у святы, браканьеры робяць сваю чорную справу, але і супрацоўнікі міжрайінспекцыі не сядзяць склаўшы рукі, а добрасумленна выконваюць ускладзеныя на іх абавязкі. Рэдкі дзень праходзіць у спакойным становішчы, штохвіліны супрацоўнікі павінны быць гатовыя да выезду на выклік і мы да гэтага гатовыя. Вельмі ўдзячныя грамадзянам за дапамогу ў працы па спыненні фактаў браканьерства, усе сігналы, што паступаюць, правяраюцца, а вінаватыя прыцягваюцца да адказнасці.

Так, 4 траўня 2012 года, супрацоўнікам Глыбоцкай міжрайінспекцыі ад грамадзян паступіла паведамленне пра тое, што на возеры Шылаўскае Глыбоцкага раёна ўсталяваны браканьерскія сеткі, працаўнікі інспекцыі неадкладна выехалі на вадаём. Каля 22 гадзін вечара інспектары затрымалі жыхара в. Шылава, грамадзяніна П., які і ўсталяваў сеткі. Зараз яго начныя прыгоды ацэніць раённы суд.

Велізарны дзякуй грамадзянам, якія аказваюць дапамогу супрацоўнікам інспекцыі ў навядзенні парадку на вадаёмах і лясах раёна. Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведамляць па тэлефонах Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: «гарачая лінія» – 8-02156-28670 (кругласутачна), маб. тэл. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.



**Globe and Mail назваў фота Сяргея Грыца лепшым за суткі**

Здымак, зроблены беларускім фотарэпарцёрам, - сярод лепшых за мінулы дзень (03.05.2012).

Найбуйнае штодзённае выданне Канады Globe and Mail апублікавала фатаграфію Сяргея Грыца ў частцы «Лепшыя фота сутак».

Фатаграфія зроблена каля сяла Смолічы, у 160 кіламетрах на поўдзень ад Мінска.

Здымкі Сяргея Грыца не аднойчы змяшчаліся на старонках газеты «Вольнае Глыбокае».

# Каралеўскае таварыства абароны птушак Вялікабрытаніі, Мінпрыроды і ГА «Ахова птушак Бацькаўшчыны» падпішуць мемарандум аб супрацоўніцтве

**Каралеўскае таварыства абароны птушак Вялікабрытаніі, Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі і грамадскае аб'яднанне «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) падпішуць мемарандум аб узаемаразуменні па пытаннях супрацоўніцтва ў сферы аховы навакольнага асяроддзя.**

Як паведаміў БелаПАН дырэктар АПБ Віктар Фянчук, дакумент будзе насіць рамачны характар. Ён пацвердзіць намеры бакоў супрацоўнічаць па пяці асноўных кірунках: ахова глабальна пагражаных відаў; ахова тэрыторый, якія маюць высокую прыродную каштоўнасць, у тым ліку тэрыторый важных для птушак; кіраванне і аднаўленне экасістэм, а таксама павышэнне дасведчанасці насельніцтва па пытаннях экалогіі.

Падпісанне дакумента адбудзецца 8 мая ў Мінску падчас візіту ў Беларусь дэлегацыі Каралеўскага таварыства абароны птушак Вялікабрытаніі на чале з генеральным дырэктарам Майкам Кларкам, які адбудзецца з 5 па 9 мая. Падчас візіту прадстаўнікі Каралеўскага таварыства абароны птушак сустрэнуцца з міністрам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Уладзімірам Цалко і наведаюць шэраг асабліва падахоўных прыродных тэрыторый: Палескі дзяржаўны радыяцыйна-экалагічны запаведнік, нацыянальны парк «Прыпяцкі», заказнік «Тураўскі луг».

Як зазначыў Фянчук, Каралеўскае таварыства абароны птушак супрацоўнічае з АПБ з дня заснавання арганізацыі ў 1998 годзе. Яго падтрымка заключалася як у прыцягненні фінансавання да рэалізацыі прыродаахоўных праектаў, гэтак і ў экспертнай дапамозе. «Самае каштоўнае — інавацыйны вопыт Еўропы. За гады супрацоўніцтва з Каралеўскім таварыствам абароны птушак у Беларусі з'явіліся планы кіравання асабліва падахоўнымі тэрыторыямі, планы дзеянняў датычна чырванакніжных відаў, практыка выкошвання заліўных лугоў і шмат што іншае», — сказаў дырэктар АПБ. Паводле прыблізных ацэнак, Каралеўскае таварыства абароны птушак дапамагло прыцягнуць у Беларусі на рэалізацыю прыродаахоўных праектаў больш як 10 млн. еўра.

**Даведка БелаПАН**. Каралеўскае таварыства абароны птушак Вялікабрытаніі, якое дзейнічае пад патранажам каралевы Вялікабрытаніі Елізаветы II, з'яўляецца самай буйной дабрачыннай арганізацыяй па ахове дзікай прыроды ў Еўропе. Яно ўключае ў сябе 1,5 тыс. супрацоўнікаў, больш як 12 тыс. валанцёраў і больш за 1 мільён удзельнікаў.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН*

